А. ЧАРВЯКОЎ

# БЕЛАРУСЬ ДА X-ай ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА ::: МЕНСК—1927

А. ЧАРВЯКОЎ

# БЕЛАРУСЬ
## ДА X-ай ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
М Е Н С К——1927

# ПРАДМОВА

У сувязі з падрыхтоўкай да дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай Рэволюцыі выявілася вялізная патрэба ў масавай популярнай літаратуры. Выданыя матэрыялы і па сваім зьмесьце і па цане не заўсёды даступны масаваму чытачу. Ведаць-жа аб вялікіх заваёвах Кастрычніка павінен кожны рабочы, кожны селянін.

Каб задаволіць гэтыя патрэбы, «Цэнтральная Камісія па падрыхтоўцы да сьвяткаваньня дзесятай гадавіны Кастрычніка» выпушчае гэтую брошуру, якая складзена шляхам скарчэньня і некаторай перапрацоўкі ўжо распраданай кнігі А. Чарвякова «За Савецкую Беларусь».

# Беларусь перад рэволюцыяй

**Русыфікатарская політыка царызму ў Беларусі.**

Пасьля далучэньня Беларусі да Расіі, расійскі ўрад усімі способамі ўмацоўваў на Беларусі сваё панаваньне, для чаго спачатку асьцярожна, а потым усё больш рашуча праводзіў на Беларусі політыку зрусыфікаваньня краіны, грунтуючыся на тым, што гэта «Заходні Край» Расійскай імпэрыі.

Аляксандар II яшчэ ў 1859 годзе ў адказ на ліст мітрополіта Сямашкі, у якім той непакоіўся аб слабасьці процэсу «зьліваньня гэтых губэрняў з аднакроўнай Расіяй», паклаў такую рэзолюцыю: «Я не разумею, чаго ён хоча, бо ніколі і гутаркі ня было і на думку мне ня прыходзіла адступацца ад заведзенай пры бацьку сыстэмы—старацца аб злучэньні ў заходніх губэрнях польскага элемэнту з расійскім, але бяз усякага адкрытага прымусу і пакараньняў палякаў. А што я каталіком не патураю, дык гэта, здаецца, досыць відавочна даведзена на справе» [1]).

«Мы павінны цяпер усімі сродкамі, не шкадуючы ні працы, ні грошай, узмацняць і ўзвышаць расійскую ў тутэйшай краіне народнасьць... Мы павінны ісьці цьвёрда гэтым шляхам, ня гледзячы ні на якія галасы протэсту *насаджваць* тут расійскую народнасьць»... [2])—Вось програма чыннасьці, якую пасьля задушэньня польскага паўстаньня 1863 году разьвівае заслужоны слуга свайго монарха—генэрал Міхаіл Мураўёў, вядомы пад мянюшкай вешальніка.

---

[1]) „1863 год на Меншчыне“, стар. 144. Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры. Менск, 1927 г.

[2]) Там-сама, стар. 154.

Галоўны свой удар расійскі ўрад натуральна накіроўвае супроць палякаў і каталікоў, бо, як жаліцца Мураўёў у лісьце да міністра ўнутраных спраў Даўгарукага: «Памешчыкі (ж) палякі, тутэйшая шляхта, ксяндзы, чыноўнікі-каталікі і іншыя розначынцы—усе без выключэньня заўсёды былі і будуць заядлымі ворагамі Расіі».

Такім чынам на Беларусі ішла зацятая барацьба расійскай буржуазіі за панаваньне.

Расійская буржуазія, якая мела сваю організацыю ў выглядзе Расійскай дзяржавы, змагалася за панаваньне ў краі супроць польскай буржуазіі; польская буржуазія, страціўшая польскую дзяржаўнасьць, імкнулася да адраджэньня Польскай дзяржавы ў гістарычных межах, г. зн. з улучэньнем у яе склад і Беларусі.

**Барацьба за сялянства.**

Абодва бакі, шукаючы саюзьнікаў, стараліся заручыцца падтрыманьнем з боку галоўнай масы насельніцтва краю—мясцовага сялянства.

«Пасьля Вэнгерскай рэволюцыі ў літаратуры польскай эміграцыі зьявілася і разьвівалася думка, што адзіным паратункам для Польшчы застаецца зьбліжэньне дваранскага стану з народам і здабываньне сваёй незалежнасьці шляхам партызанскай вайны. Гэтая думка спаткала вялікую прыхільнасьць ва ўсім Заходнім Краі, але разумелася парознаму моладзьдзю і старымі польскімі панамі. Частка моладзі лічыла патрэбным вызваліць сялян з зямлёю, большая частка—без зямлі, а старыя магнаты марылі аб рэспубліцы з прыгонам» [1]),—гэтак апісвае настроі польскай буржуазіі часоў польскага паўстаньня жандарскі палкоўнік Лосеў.

«У Заходнім Краі», піша ў памянёным ужо лісьце Мураўёў: «сельскае насельніцтва (разумей—сялянства) складае аснову нашага панаваньня тут»... [2]).

Усё гэта стварае надзвычайна складаныя і заблытаныя політычныя абставіны ў краі. Расійскі царызм,

---

1) Там-сама, стар. 1.
2) Там-сама, стар. 152.

які па сваёй клясавай сутнасьці быў блізкім для польскай буржуазіі, стараецца абаперціся на сялянства ў барацьбе супроць сэпаратысцкіх тэндэнцый польскай буржуазіі, але ў той-жа час царызм пільна глядзіць за тым, каб гэтая «аснова панаваньня»—сялянства не парушыла асноўных праў уласнасьці буржуазіі наогул і польскай буржуазіі ў прыватнасьці. Палітыка расійскага ўраду ў адносінах да сялянства праводзілася вельмі хітра: карыстаючы з таго, што сярод польскіх памешчыкаў было шмат ворагаў вызваленьня сялян з прыгону, урад браў на сябе ролю абаронцы сялян ад памешчыкаў; данадзяленьне сялян зямлёй, падтрыманьне сялян у барацьбе супроць чыншаў за павялічэньне сэрвітутнага карыстаньня зямлёю,—усё гэта павінна было паказваць беларускаму сялянству, як клапоціцца аб ім урад, і гэтым прыцягваць сялян на бок расійскага ўраду, расійскага цара супроць польскіх памешчыкаў.

Усё польскае ў Беларусі лічылася роўназначным уціску над беларускім сялянствам, і, наадварот, прышчаплялася думка, што палепшаньне становішча сялянства зьвязана з узмацненьнем расійскіх уплываў.

Якія глыбокія сьляды пакідала гэтая палітыка ў сялянстве—відаць з наступнага. Станіслаў Грабскі, вядомы польскі буржуазны дзеяч, пісаў у 1923 годзе: «Урадавая дэмагогія пакінула ў настроях і поглядах вёскі Каралеўства значныя сьляды. Ёсьць раёны, дзе яшчэ нядаўна можна было пачуць ад старых сялян словы няверы ў Польшчу: расіец нас выгадаваў, расіец нас і пахавае».

**Рэлігійнае пытаньне.**

Становішча заблытвалася яшчэ і тым, што ў барацьбу расійскага ды польскага нацыяналізму ўмешвалася і рэлігійнае пытаньне: праваслаўны—расіец, католік—паляк. Расійскі ўрад выкарыстоўваў праваслаўнае духавенства для барацьбы за адзіную непадзельную Расію. Польскі нацыяналізм, як вядома, на ўсім працягу барацьбы карыстаецца каталіцкім касьцёлам для сваіх мэт. Беларускае-ж сялянства па рэлігіі падзяляецца на праваслаўных і каталікоў і абедзьвюма царквамі ўцягвалася ў барацьбу расійскага і польскага нацыяналізму. Да ўсяго гэтага далучылася яшчэ яўрэйскае пытаньне.

**Яўрэйскае пытаньне.**

Расійскі ўрад да далучэньня Беларусі да Расіі не дазваляў яўрэям жыць у Расіі. Калі-ж, разам з далучэньнем Беларусі да Расіі, у склад жыхароў Расіі ўвайшлі і яўрэі, то перад расійскім урадам паўстала пытаньне: што рабіць з гэтым насельніцтвам? Яўрэі трымалі ў сваіх руках мясцовы гандаль і прамысловасьць. Значыцца, з гэтага боку яны былі карыснымі для дзяржавы, бо плацілі падаткі. Але, з другога боку, яўрэйскі капітал быў конкурэнтам расійскаму, а таму расійская буржуазія патрабавала ўсякіх абмежаваньняў для яўрэяў. І расійскі ўрад усякімі спосабамі ўціскае яўрэяў. «Мяжа аселасьці», процантная норма ў навучальных установах, забарона купляць і нават арандаваць зямлю, забарона займаць пасады ў дзяржаўных установах,—гэта і шмат яшчэ чаго, што выдумвалі губарнатары, спраўнікі, прыставы і г. д., зьяўлялася законам для яўрэйскага насельніцтва. Аднак тут трэба адзначыць, што ў гэтай барацьбе супроць яўрэяў увесь цяжар клаўся на яўрэйскую беднату, дзеля таго што яўрэйская буржуазія купляла гільдыю, атрымлівала «ганаровае грамадзянства», дабівалася профэсіі, пры дапамозе чаго набывала правы і выходзіла з гэтага зачараванага кола. Становішча-ж яўрэйскай бедняты, дзякуючы гэтаму, горшала яшчэ болей, было нязносным, прыводзіла да фактычнага выміраньня гэтага насельніцтва.

Такім чынам, на Беларусі паступова разьвівалася нацыянальная і рэлігійная барацьба, якую в вялікай ахвотай падтрымліваў і якой хітра карыстаўся расійскі ўрад.

Гаспадарчае становішча Беларусі было ўвесь час цяжкое. Пасьля скасаваньня прыгону беларуская вёска, гарады і мястэчкі доўгі час не маглі ўстаць на ногі.

**Зямельнае пытаньне і становішча сялян.**

Большая і лепшая частка зямлі знаходзілася ў руках буйных зямляўласьнікаў: 3.993 паны мелі 40 проц. усёй зямельнай плошчы. Сялянская ўласнасьць у 1916 годзе складала толькі 46 проц. усёй зямельнай уласнасьці. На сялянства быў накладзены выкуп за зямлю па такой высокай ацэнцы, што селянін заплаціў і за

зямлю, і за сябе, і за даўті паноў. Жыць было ўсё цяжэй. Калі-ж сялянская гаспадарка крыху паправілася, пачалася моцная дыфэрэнцыяцыя сялянства, з вылучэньнем нязначнай колькасьці заможных і вялізнай колькасьці беднякоў.

Цікава, што нават земскія начальнікі характарызуюць становішча і настроі вёскі тых часаў вельмі сумнымі фарбамі: беднасьць, забітасьць, цемната народу, нястача зямельных надзелаў, адсутнасьць лесу і пасьбішчаў; панская эксплёатацыя перасягае ўсе межы, адносіны паноў да сялян дзікія. Адсюль агульнае нездаваленьне і варожасьць да пануючых клясаў. Вось што кажуць аб сабе сяляне, даючы наказ ад Віцебскай губэрні ў першую Думу: «Жыцьцё нашае цяжкое... калі ў такіх умовах, як цяпер, працягнецца нашае жыцьцё яшчэ гадоў 15—20, то мы будзем паміраць з голаду. Ня кажучы ўжо пра багатых, нават у сярэдняга жыхара сабака ня будзе есьці таго, што павінны есьці мы». Сяляне Смаленскай губэрні кажуць: «Зямлі няма, лесу няма, пасьвіць скаціну няма дзе. Хлеба не хапае. Сяляне паўлазілі ў няволю да багатыроў. Селянін век працуе, а жыве ў брудзе, абшарпаны, няпісьменны і ня мае чаго есьці. Школ няма. Закон абмяжоўвае правы сялян. А пажаліцца няма каму».

Гарады Беларусі расьлі вельмі слаба. Колькасьць гарадзкога насельніцтва з 12,1 проц. у 1863 годзе зьменшылася к 1897 году да 11,5 проц., а перад вайной 1914 году павялічылася толькі да 13,4 проц.

**Прамысловасьць.** Прамысловасьць пачала разьвівацца позна: ня было мясцовых капіталаў. Адыграла тут вядомую ролю і палітыка расійскай буржуазіі. Польскі-ж капітал і польская прамысловасьць пачалі расьці ў гэты час досыць хутка. Польская прамысловасьць зьявілася конкурэнтам расійскай прамысловасьці. Барацьба паміж расійскім і польскім капіталам затрымала і фактычна перашкаджала будаўніцтву прамысловых прадпрыемстваў на Беларусі. Толькі ў Гарадзенскую губэрню пасьля паўстаньня 1831 году ў сувязі з павялічэньнем мытных падаткаў перабраўся польска-нямецкі капітал.

**Рабочая кляса.** Колькасьць рабочых, занятых у вытворчасьці, была ў Беларусі нязначнай, і рабочыя знаходзіліся ў асабліва цяжкіх умовах. Гарады й мястэчкі выкідвалі на рынак працы значны лік рабочых, вёска таксама давала вельмі танную рабочую сілу. Усё гэта стварала вялізную конкурэнцыю сярод прапаноўваўшых сваю працу і аддавала іх цалком у рукі эксплёататараў. Да гэтага далучалася й тое, што ў шэрагі рабочых уносілася атрута нацыяналістычнага ды рэлігійнага фанатызму, а гэта яшчэ больш саслабляла шэрагі рабочых і яшчэ больш аддавала іх у рукі капіталістых.

**Рамесьніцкая вытворчасьць.** Значнае месца ў Беларусі займае рамесьніцкая вытворчасьць. Усіх рамесьнікаў у 1913 годзе налічвалася каля 200 тысяч чалавек. Роля саматужна-рамесьніцкай вытворчасьці ў агульнай продукцыі вытворчасьці вельмі значная: тэтак, у 1913 годзе рамесьніцкая вытворчасьць дала 70,1 проц. усёй продукцыі, у той час. як у Эўропэйскай Расіі яна складала толькі 23,8 проц. Рамесьніцтвамі ў Беларусі займаюцца, галоўным чынам, яўрэі, для якіх ва ўмовах поўнага бяспраўя дарэволюцыйнай расійскай рачаіснасьці рамесьніцкая вытворчасьць была самым важным сродкам да існаваньня.

**Культурнае становішча.** Культурнае становішча Беларусі было таксама цяжкім. На тысячу чалавек насельніцтва ў 1914 годзе пісьменных было: у Эўропэйскай Расіі—434, на Паўночным Каўказе—356, на Украіне—416, а на Беларусі толькі—327.

У сельскіх мясцовасьцях на тысячу насельніцтва пісьменных разам з вучнямі было 27 проц.

**Адміністрацыйная сваволя.** На такім агульным фоне экономічнага і культурнага заняпаду краю ды нацыяналістычнай барацьбы расійскай, польскай, яўрэйскай і беларускай буржуазіі адна за аднэй і ўсіх іх разам—супроць рабочых, рамесьнікаў і сялян Беларусі—панавала адміністрацыйная сваволя расійскіх царскіх чыноўнікаў, якія займаліся «насаджваньнем расійскай народнасьці». Беларуская мова, мова

вялізнай большасьці насельніцтва Беларусі—беларускіх сялян—была абвешчана «выдумкай», мовай няіснуючай і карыстацца ёю забаранялася. Друкаваньне кніг у беларускай мове таксама было забаронена, а старыя кнігі зьністажаліся. Польская і яўрэйская мовы хоць і лічыліся «існуючымі», але ўжываньне іх таксама забаранялася. «Я сабачай мовы не разумею»,—адказаў адзін вядомы расійскі чыноўнік у Вільні, калі да яго зьвярнуліся з запытаньнем папольску.

**Нацыянальнае пытаньне.**

Нацыянальнае пытаньне, дзякуючы ўсяму гэтаму, стаяла ў Беларусі вельмі гостра і было надзвычайна заблытаным.

Большасьць насельніцтва Беларусі—беларусы-сяляне. Пануючае-ж становішча ў краіне займалі расійская, польская і яўрэйская буржуазіі: першая—у якасьці прадстаўнікоў расійскага самадзяржаўя, другая—як буйнейшыя зямляўласьнікі краю, трэцяя—у якасьці асноўнай сілы гандлёвага капіталу. Такім чынам клясавыя інтарэсы спляталіся з нацыянальнымі і наадварот.

**Рэволюцыйны рух.**

Цяжкое палітычнае, экономічнае і культурнае становішча было прычынай раньняга разьвіцьця ў Беларусі рэволюцыйнага руху.

*Сялянскі рэволюцыйны рух.* Каб палепшыць сваё становішча, сялянства вяло барацьбу з панамі за зямлю, за павялічэньне свайго зямляўладаньня. З кожным годам барацьба супроць паноў рабілася ўсё гастрэйшай і пераходзіла да беспасрэднага захопу панскай зямлі. Гэта выклікала каральныя экспэдыцыі расійскага ўраду супроць сялян.

Гэтак сялянства праходзіла паступова школу барацьбы супроць буржуазіі, прыходзіла да ўсьведамленьня, што расійскі царскі ўрад ёсьць урад буржуазіі, што сялянству гэты ўрад нічога добрага ня дасьць і што толькі шляхам зьністажэньня ўлады царызму—гэтага абаронцы буржуазіі можна забясьпечыць перамогу над панамі.

Селянін пачаў дабівацца лепшага шляхам рэволюцыйнай барацьбы. Асабліва шырака быў разьвіты сялянскі рух на Беларусі ў 1905—1907 г.г. Гэты рух меў

у большасьці стыхійны, неорганізаваны характар. Аднак і ў той час ужо былі спробы накіраваць сялянскі рух на агульны шлях організаванай барацьбы супроць царызму. «Організацыі РСДРП прымалі вялікі ўдзел у аграрным руху, маючы асобныя сялянскія організацыі... Пры віцебскай групе Паўночна-Заходняга Камітэту яшчэ ў 1904 годзе была сялянская с.-д. організацыя. У сакавіку 1905 году полацкая організацыя выпусьціла гэктографаваную адозву «К крестьянам», якая заклікала да барацьбы з царскім урадам за сканчэньне вайны, скасаваньне выкупаў, зварот абрэзкаў, звальненьне беднаты ад падаткаў... Менская група РСДРП у працягу ўсяго 1905 году пасылала на вёску агітатараў ды прапагандыстых і праз местачковыя організацыі распаўсюджвала ў вёсках літаратуру, організоўвала мітынгі»...

Барацьба 1905—1907 г.г. паказала беларускім сялянам, што толькі ў тым выпадку селянін дабіваўся сваіх патрабаваньняў праз Думу, суды, праз беспасрэдную барацьбу з панамі, калі ён—селянін—знаходзіў падтрыманьне з боку рабочага і яго партый ды організацый. Сялянскі рух тых гадоў мае значэньне таму, што ён, з аднаго боку, выясьніў сялянству, што без рашучай рэволюцыйнай барацьбы супроць буржуазіі няма выйсьця з цяжкога становішча, і паставіў, такім чынам, сялянства, як клясу, супроць буржуазіі, а, з другога боку—паказаў, што барацьба сялянства без організуючай сілы рабочага, без кіраўніцтва ня можа мець посьпеху.

*Рабочы рэволюцыйны рух.* Рабочая кляса Беларусі, ня гледзячы на сваю параўнаўчую малалічнасьць і цяжкое становішча, таксама рана ўстала на шлях рэволюцыйнай барацьбы.

Першыя забастоўкі рабочых адбыліся яшчэ ў 70-х гадох. Гэтак, у 1874 годзе ў Ландварове (каля Вільні) баставаў завод цьвікоў і дроту, у 1877 годзе з посьпехам змагаліся ткачы Беластоку. Палавіна дзевяцьдзесятых гадоў адзначаецца значным разьвіцьцём забастовачнага руху. Забастоўкі былі ў Вільні, Менску, Віцебску, Горадні, Гомлі ды іншых гарадох і ў шмат якіх мястэчках. У 1892 годзе ў Вільні ўпяршыню сьвяткуецца 1-ае мая.

**Партыі.** Рана ствараюцца партыйныя арганізацыі. З 1893 году ў Заходняй Беларусі працавала «Соцыял-Дэмократычная Партыя Польшчы і Літвы», якая адразу ўстала на шлях рэволюцыйнага марксызму.

Амаль аднячасна пачала сваю працу «Партыя Польскіх Соцыялістых» (ППС), якая стаўляла сваёй галоўнай задачай адраджэньне польскай дзяржавы ў гістарычных межах, пасьля чаго лічыла неабходным узяцца за соцыяльныя рэформы.

Свае нацыяналістычныя ўплывы ППС пашырала сярод рабочых Горадзеншчыны, Віленшчыны і Меншчыны.

У 1897 годзе на аб'яднаным зьезьдзе яўрэйскіх соцыял-дэмократычных організацый быў організаваны «Аб'яднаны Яўрэйскі Рабочы Саюз» (Бунд).

1-га сакавіка 1898 году ў Менску была заснована Расійская Соцыял-Дэмократычная Рабочая Партыя.

**Нацыяналістычныя партыі.** Асаблівыя ўмовы Беларусі з яе нацыянальнымі супярэчнасьцямі стваралі спагадную глебу для разьвіцьця і ўмацаваньня нацыяналістычных рухаў. Дзеля гэтага на Беларусі мелі значны ўплыў партыі, якія афармлівалі гэтыя рухі.

Беларуская Соцыялістычная Грамада рабіла спробу ўстаць на чале сялянскага руху, які, як ужо зазначалася, быў выклікаты цяжкім экономічным і політычным становішчам сялянства. Грамада, адбіваючы настроі буржуазных і дробна-буржуазных, кулацкіх ды мяшчанскіх элемэнтаў Беларусі, політычна афармлівала гэтыя настроі, высоўваючы ідэю стварэньня самастойнай беларускай дзяржавы. Каб павесьці за сабою сялянства, Грамада мела радыкальную аграрную програму. Такім чынам, паставіўшы сабе задачай барацьбу за стварэньне незалежнай беларускай дзяржавы, Грамада радыкальнымі фразамі хацела павесьці за сабою ўсе нездаволеныя элемэнты і ў першую чаргу—сялянства. Значнага ўплыву Грамада ня мела, але, ня гледзячы на гэта, для правільнай ацэнкі ролі Грамады трэба мець на ўвазе, што зьяўленьне Грамады мела сымптоматычнае значэньне, як паказьнік магчымых політычных плыняў на Беларусі.

Гарады і мястэчкі Беларусі служылі базай для працы Бунду, сыоністых, ППС і іншых нацыяналістычных партый, праца якіх разьбівала шэрагі пролетараў, саслабляючы іх рэволюцыйную сілу.

Царскі ўрад вельмі ўважна сачыў за разьвіцьцём рэволюцыйнага руху і карыстаў з усякай магчымасьці, каб саслабіць яго і зьніштожыць. Яскравым прыкладам таго, як царскі ўрад стараўся скарыстаць экономічныя і нацыянальныя асаблівасьці Беларусі для барацьбы з рэволюцыяй, можа служыць так званая «зубатаўшчына» і падтрыманьне царскай ахранкай сыоніцкіх організацый.

**Напярэдадні рэволюцыі.**

Аднак, рабочую клясу і сялянства Беларусі можна было ашукаць, але нельга было зрабіць з іх прыхільнікаў буржуазіі. Вось чаму заўсёды нізы мясцовых, нават нацыяналістычных організацый былі настроены больш рэволюцыйна, як іх лідэры, і рашуча адхілялі ўсе заклікі да згаджэньня з буржуазіяй.

Пасьля таго, як у 1903 годзе социял-дэмократычная партыя пакалолася на бальшавікоў і меншавікоў, у Беларусі пачалі ствараца бальшавіцкія організацыі.

Рабочая кляса Беларусі прайшла добрую політычную школу. Усе моманты рэволюцыйных выбухаў адзначаюцца вялікай цьвёрдасьцю рабочых. Афяры рабочай клясы ў барацьбе супроць царызму яшчэ больш замацавалі організаванасьць і солідарнасьць рабочых.

У апошнія гады перад вайной рэволюцыйныя організацыі Беларусі былі зусім зруйнованы. Але чым большым быў уціск царызму, тым большая рэволюцыйная энэргія нарастала ў рабочай клясе і сялянстве, тым з большай сілай павінна была яна рынуцца на барацьбу супроць царскага самадзяржаўя.

# Кастрычнікавы пераварот

**Становішча Беларусі ў часе імпэрыялістычнай вайны.**

Беларусь спаткала лютаўскую рэволюцыю ў стане страшэннага заняпаду. Імпэрыялістычная вайна падзяліла Беларусь расійска-нямецкім фронтам на дзьве часткі: у Заходняй Беларусі гаспадарылі нямецкія окупанты, Усходняя-ж Беларусь знаходзілася цалком у паласе Заходняга фронту расійскай арміі.

Гарады, мястэчкі і вёскі Беларусі былі ў значнай ступені разбураны. Сялян царызм высяляў у Расію, каб паказаць усяму сьвету, што народ выяжджае з Беларусі таму, што ня хоча, з пачуцьця патрыотызму, заставацца ў нямецкай окупацыі. Яўрэяў высялялі з прыфронтавай паласы, бо царскі ўрад, каб скінуць з сябе віну за свае ваенныя няўдачы, распаўсюджваў чуткі, што ў гэтых няўдачах вінны яўрэі, якія нібы прадаюць немцам расійскую армію, займаюцца шпіёнствам для Нямеччыны, перавозяць праз фронт золата і г. д.

Усё гэта разам прывяло да значнага саслабленьня сілы рабочай клясы, да поўнага разбурэньня рэволюцыйных організацый і саслабленьня нацыянальна-рэволюцыйнай сялянскай інтэлігенцыі.

У першыя-ж дні лютаўскай рэволюцыі на Беларусі пачалася барацьба за тое, па якім шляху павінна пайсьці далейшае разьвіцьцё рэволюцыі: соцыялістычным ці буржуазна-дэмократычным.

**Барацьба за соцыялістычны шлях рэволюцыі.**

Невялікая група бальшавікоў з т.т. *Фрунзэ*, *Мясьніковым*, *Кнорыным* ды інш. на чале, якая апынулася к моманту рэволюцыі ў шэрагах расійскай арміі Заходняга фронту, узяла на сябе ініцыятыву ў барацьбе за соцыялістычную рэволюцыю.

Паступова бальшавіцкая організацыя пачала расьці: у яе шэрагі пачалі ўваходзіць салдаты фронту, а таксама рэволюцыйныя беларускія рабочыя і сяляне. 4-га сакавіка 1917 году організаваўся Менскі Савет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў з тав. Позэрнам на чале. Савет узяў на сябе ўвесь цяжар зьбіраньня сіл і падрыхтоўкі да захопу ўлады ў рукі рабочых і сялян. 15-га сакавіка організаваўся Савет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў у Віцебску. У кастрычніку быў склікани зьезд сялянскіх дэпутатаў Менскай губэрні, старшынёй яго быў тав. Фрунзэ.

20-га красавіка франтавы зьезд салдацкіх дэпутатаў вылучыў выканаўчы камітэт Заходняга фронту для організацыі контроля і кіраўніцтва жыцьцём Заходняга фронту.

Вялізную працу правялі савецкія організацыі Беларусі ўлетку 1917 году ў барацьбе з Керанщчынай і Карнілаўшчынай. Толькі дзякуючы дзейнасьці і ўплыву бальшавікоў Заходняга фронту, удалося затрымаць адсылку ў Петраград ударных батальёнаў з Заходняга фронту.

25-га кастрычніка Менскі Гарадзкі Савет захапіў уладу ў свае рукі.

30-га кастрычніка Гомельскі Гарадзкі Савет пасьля дакладу тав. Кагановіча вынес пастанову аб перадачы ўсёй улады саветам. Нарэшце, 18, 19 20 і 21-га лістапада адбыўся зьезд рабочых і сялянскіх дэпутатаў беларускіх губэрняў. На зьезьдзе перад дэлегатамі былі пастаўлены пытаньні аб вайне, уладзе і зямлі. Па ўсіх пытаньнях зьезд вынес цьвёрдыя пастановы: вайну скончыць, уладу ўзяць у рукі рабочых і сялян, зямлю перадаць сялянам.

Бальшавіцкая організацыя к гэтаму часу надзвычайна вырасла: 15 верасьня бальшавікі налічвалі звыш 9 тысяч членаў, к моманту кастрычнікавага перавароту лік бальшавікоў Заходняга фронту і краіны дасягнуў больш як 50 тысяч чалавек.

Гэтак паступова ішла організацыйная праца бальшавікоў. Бальшавікі зьвярнулі сваю ўвагу галоўным чынам на салдат, рабочых і сялян, самі ўсталі на чале і хуткім крокам павялі да захопу ўлады саветамі.

**Організацыя контр-рэвалюцыйных сіл.**

Арганізацыя контр-рэвалюцыйных сіл на Беларусі ішла каля двух цэнтраў. Першы—адбіваў настроі ды імкненьні расійскай і зрусыфікаванай буржуазіі, якая хацела захаваць Беларусь, як «Паўночна-Заходні Край» новай дэмократычнай Расіі. Разам з камандваньнем Заходняга фронту, часта пад кіраўніцтвам яго гэты цэнтр імкнуўся наладзіць у Беларусі «дэмократычны парадак», каб забясьпечыць праця́г вайны «да пераможнага канца», адклаўшы разьвязаньне ўсіх пытаньняў рэвалюцыі аб уладзе, зямлі ды інш. да скліканьня Ўстаноўчага Сойму.

Да прыхільнікаў гэтай плыні трэба залічыць гарадзкія думы, земствы, партыі эсэраў, меншавікоў, Бунд ды інш.

Аднак, нават у першыя дні рэволюцыі гэта быў штаб бяз арміі. Камісары часовага ўраду Керанскага, думы, земствы ніякага ўплыву на масы ня мелі. Каму трэба было зрабіць справу, той ішоў у савет. Не памагалі прыезд і прамовы раскатываўшых па Заходнім фронце Мілюкова, Гучкова і самога Керанскага.

Куды большай пагрозай быў штаб Заходняга фронту ў Менску і стаўка найвышэйшага галоўнакамандуючага ў Магілеве. Аднак, і з гэтымі штабамі ўдалося зладзіць, таму што салдацкія масы пайшлі за бальшавікамі і саветамі.

Другім цэнтрам, дзе арганізоўвалі сілы супроць пролетарскай рэволюцыі, зрабіўся беларускі нацыянальны рух.

У першыя дні пасьля лютаўскай рэволюцыі беларускія нацыяналістычныя элемэнты ня мелі яснай програмы. Сабраўшыся 25-га сакавіка 1917 году, беларускія організацыі абралі Беларускі Нацыянальны Камітэт, у склад якога ўвайшлі: памешчык Скірмунт, ксёндз Гадлеўскі, зямляўласьнік Кастравіцкі, чыноўнікі, настаўнікі.

Беларускі Нацыянальны Камітэт прыняў пастанову, у якой ухваліў «найлепшай формай дзяржаўнага ладу Расіі фэдэрацыйна-дэмократычную рэспубліку», заявіў, што «зямельнае пытаньне будзе разьвязана на Расійскім Устаноўчым Сойме», патрабаваў «далучэньня ўсёй Беларусі да дэмократычнай Расіі»...

Гэта была звычайная буржуазна-дэмократычная пляцформа з некаторым нацыянальным адценьнем.

Значных уплываў Беларускі Нацыянальны Камітэт ня меў, але ён даў штуршок да адраджэньня старых і стварэньня новых нацыяналістычных організацый як у Беларусі, гэтак сярод уцекачоў і ў арміі.

Улетку 1917 году была абрана Рада беларускіх організацый. Яна таксама ня йшла далей нацыянал-дэмократычнай програмы, аднак, знадворку прыняла рэволюцыйны выгляд. Гэта дало ёй магчымасьць павесьці працу сярод сялян і сельскай інтэлігенцыі. У першую чаргу была распачата праца сярод вайсковых беларусаў, шляхам склікаськія зьездаў «ваяк-беларусаў» Заходняга, Паўднёва-Заходняга, Паўночнага, Румынскага ды іншых фронтаў. Рэзолюцыі гэтых зьездаў складаліся так, каб, з аднаго боку, задаволіць рэволюцыйныя патрабаваньні салдат-рабочых і сялян, а з другога—умацаваць нацыянал-дэмократычную позыцыю Рады.

Такім чынам, разам з паступовым зьбіраньнем сіл вакол бальшавікоў і саветаў Беларусі для захопу ўлады беларускімі рабочымі і сялянамі, ішла праца беларускіх нацыяналістычных організацый, якія імкнуліся сабраць вакол сябе пераважна сялянства і сялянскую інтэлігенцыю, каб накіраваць іх супроць саветаў, супроць соцыялістычнай рэволюцыі.

Галоўным пунктам барацьбы паміж рэволюцыйнымі і контр-рэволюцыйнымі сіламі Беларусі было нацыянальнае пытаньне. Замест усіх асноўных пытаньняў рэволюцыі, а разам з гэтым і нацыянальнага, як гэта робіць компартыя, на першае месца высоўваецца нацыянальнае пытаньне, як зусім самастойнае пытаньне, разьвязаньне якога, на думку нацыянал-дэмократаў, павінна стаяць паперадзе ўсіх іншых пытаньняў рэволюцыі.

**«Усебеларускі Конгрэс».**

Рэволюцыйныя і контр-рэволюцыйныя сілы Беларусі ўсталі адна супроць аднэй найбольш гостра на так званым «Усебеларускім Конгрэсе».

Ужо прышоў Кастрычнік. Беларусь разам з Расіяй пайшла па шляху Кастрычнікавай рэволюцыі. Улада ў

Беларусі знаходзілася ў руках саветаў рабочых, сялянскіх, батрацкіх і салдацкіх дэпутатаў.

Ня гледзячы на гэта, Вялікая Беларуская Рада, разам з выканаўчым камітэтам вайсковых беларускіх арганізацый, самастойна, бяз ведама і згоды з саветамі, назначыла на 5-ае сьнежня склікаиьне Ўсебеларускага Кон-грэсу для вырашэньня лёсу Беларусі.

У гэты час у Рады зьявіўся конкурэнт: Беларускі Краёвы Камітэт пры Ўсерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў з Караткевічам на чале таксама захацеў узяць у свае рукі кіраўніцтва лёсам Беларусі і таксама назначыў на 8-ае сьнежня скліканьне Ўсебеларускага Кон-грэсу.



Пляцформа Беларускага Краёвага Камітэту выяўлена ім у яго дэкляарацыі ад 17-га лістапада 1917 году, дзе кажацца: «Мы, соцыялістыя, з верай імкнемся да сьветлай будучыны, калі ўсе працоўныя народы аб'яднаюцца ў адзін сусьветны саюз, вакол аднэй соцыялістычнай культуры, братэрства, роўнасьці і свабоды; аднак, мы не даем веры, што ў сучасны момант шляхам грамадзянскай вайны і зьністажэньня дзяржаўнасьці, без належнай падрыхтоўкі народных мас ды без патрэбнага грамадзка-экономічнага разьвіцьця народаў Расіі і нават Эўропы можна цалком ажыцьцявіць соцыялізм»... «Цяпер прышоў момант», кажа далей камітэт, «калі Беларусь, як цэльная краіна, у асобе свайго працоўнага сялянства, павінна сказаць сваё слова. Аднак, не для таго, каб зрабіць Расіі новы боль або ўставіць у яе разруху новую палку, а для таго, каб сваёй арганізаванай сілай памагчы самой сабе і ў той-жа час падтрымаць сілы шматпакутнай Расіі».

Не да рэволюцыі заклікаў камітэт, а супроць рэволюцыі: ён ня верыць у магчымасьць будаўніцтва соцыялізму. Аднак, каб ашукаць савецкую ўладу, краёвы камітэт у асобе Караткевіча распачаў хадайніцтва перад урадам РСФСР аб падтрыманьні сваёй працы, узяўшы на сябе абавязак перад савецкім урадам РСФСР забясьпечыць захаваньне ўлады саветаў на Беларусі. На скліканьне свайго зьезду краёвы камітэт атрымаў ад савецкай улады грашовую дапамогу.

Але не пасьпеў краёвы камітэт атрымаць грошы, як агаласіў дэклярацыю, што ён супроць грамадзянскай вайны, што ён ня верыць у соцыялістычнае будаўніцтва, што ён супроць саветаў, супроць рэволюцыі, за падтрыманьне буржуазнай «шматпакутнай Расіі».

Такім чынам, зусім незалежна адзін ад аднаго былі назначаны два Ўсебеларускіх Конгрэсы, і толькі ў выніку доўгіх перавыбараў згадзіліся зьліць гэтыя зьезды ў адзін зьезд.

Фактычна і далей конгрэс, на які зьехаліся 1.872 дэлегаты, складаўся з двух частак—краёўцаў і радаўцаў.

«Краёўцы» стаялі на тэй позыцыі, што Беларусь, як неаддзельная частка Расіі, павінна пры ўсякіх умовах уваходзіць у склад Расіі ў якасьці «краіны», у самым апошнім выпадку на фэдэрацыйных умовах. Гэта была дэмократызаваная пляцформа «ісьцінна-рускіх людзей».

«Радаўцы», наадварот, стаялі на позыцыі «незалежнасьці» Беларусі: яны імкнуліся давесьці, што Беларусь ня мае нічога супольнага з Расіяй, што Беларусь павінна пайсьці па шляху стварэньня незалежнай беларускай дзяржавы. У тым-жа выпадку, калі Беларусі ня ўдасца дабіцца незалежнасьці, то дапушчалася згаджэньне з Польшчай або Нямеччынай, але ні ў якім разе не з Расіяй. Як бачым, у «краёўцаў» і «радаўцаў» нічога агульнага ня было. Што-ж іх яднала?

Іх яднала агульная варожасьць да саветаў, да пролетарскай рэволюцыі.

Кіраўнікі конгрэсу дамагаліся, каб конгрэс выказаўся за прызнаньне дэмократычнага, г. зн. буржуазнага ладу і гэтым стварыў формальную перашкоду разьвіцьцю і ўмацаваньню ўлады Саветаў. Яны дабіваюцца таго, што конгрэс прымае рэзолюцыю аб тым, што ён «зацьвярджае рэспубліканскі дэмократычны лад у межах Беларускай зямлі». Аднак, на конгрэсе была пэўная частка рэволюцыйна настроеных рабочых і сялян, якія ўжо прызналі ўладу саветаў, і таму кіраўнікі конгрэсу, каб захаваць уплыў на гэтую частку зьезду і праз гэта ўтрымаць за сабой далейшае кіраўніцтва, улучаюць у тую самую рэзолюцыю пастанову аб тым, што конгрэс ухваляе «незабаўна ўтварыць з свайго складу

орган краёвай улады ў асобе Ўсебеларускага савету сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова стае на чале кіраваньня краем»...

Контрэс не адбіваў такім чынам імкненьняў рабочых і сялян Беларусі, ён быў непатрэбны, шкодны для справы рэволюцыйнай барацьбы, і таму Савет Народных Камісараў Заходняй краіны й фронту імем рабочых і сялян Беларусі спыніў 18-га сьнежня працу зьезду і абвясьціў зьезд распушчаным.

**Працяг барацьбы і новыя цяжкасьці для саветаў.**

Аднак, барацьба ня скончылася. «Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Кангрэсу» стаўся ў падпольлі і вёў сваю працу далей.

У гэты час на тэрыторыі Беларусі зьявіўся вораг у асобе польскіх легіёнаў, організаваных генэралам Доўбар-Мусьніцкім у раёне Магілеў—Бабруйск.

К гэтаму-ж часу пачала пагражаць небясьпека і з боку немцаў у сувязі з няўдачай берасьцейскіх перамаўленьняў. Немцы пайшлі ў наступ. Наш фронт быў адчынены, дзеля таго што старая армія разышлася па хатах, а новая, чырвонагвардзейская, толькі пачынала фармавацца. У апошнія гадзіны прабываньня Савету Народных Камісараў Заходняй краіны й фронту ў Менску зьявіліся «беларускія атрады», якія пачалі лавіць бальшавікоў.

18-га лютага 1918 году савецкая ўлада пакінула Менск. З 18-га да 22-га лютага ў Менску панавала ўлада польскіх легіёнаў і Беларускай Рады.

22-га лютага Менск быў заняты немцамі, якія прасунуліся да Дняпра. Пачалася нямецкая окупацыя Беларусі.

# Нямецкая окупацыя

Пад націскам наступаўшай нямецкай арміі савецкія і партыйныя бальшавіцкія цэнтры Заходняй краіны (Беларусі) эвакуаваліся ў Смаленск. З гэтага моманту пачынаецца новы пэрыод барацьбы за саветы ў Беларусі, барацьбы, якая адбывалася па той і па гэты бок окупацыйнай лініі. Смаленск, Віцебск, Магілеў, Гомель знаходзіліся на савецкім баку, уся-ж тэрыторыя на захад ад Магілеву—Воршы—Полацку апынулася ў окупацыі.

**Організацыйная праца Заходняй краіны.**

Перад бальшавікамі Заходняй краіны стаялі задачы: а) організаваць і ўмацаваць саветы на савецкім баку; б) організаваць вайсковыя сілы для абароны савецкіх тэрыторый; в) весьці рэволюцыйную працу ў окупацыі, наладзіўшы сувязь з салдатамі нямецкай арміі. У гэтых кірунках і ішла праца.

19-га сакавіка 1918 году быў організаваны заходні вучастак атрадаў заслоны Чырвонай арміі.

У траўні адбылася ў Смаленску паўночна-заходняя конфэрэнцыя бальшавікоў, а ў жніўні адбыўся V партыйны зьезд бальшавікоў Заходняй краіны.

У верасьні ў Смаленску адбыўся зьезд саветаў Заходняй краіны. Усё гэта дапамагала політычнаму і організацыйнаму ўмацаваньню савецкай улады ў савецкай частцы Беларусі.

**Праца сярод уцекачоў.**

У гэты-ж самы час разгарнулася масавая праца сярод уцекачоў—рабочых і сялян Беларусі, якіх эвакуацыя ў часе імпэрыялістычнай вайны параскідала па ўсім абшары Расіі. Паводле даных А. Кіржыца, з Літвы і Беларусі

выехала 1.320.500 уцекачоў, прычым толькі з аднэй Горадзенскай губэрні больш за 750 тысяч чалавек.

Яшчэ да Кастрычніка беларускія нацполітычныя організацыі распачалі працу сярод уцекачоў, спадзяючыся іх аўторытэтам прыкрыць сваю чыннасьць. Але гэтыя спробы нацполітычных дзеячоў мелі некаторы посьпех толькі спачатку. Праз нейкі час, калі ў організацыі ўцекачоў увайшлі рабочыя-беларусы, часта члены мясцовых бальшавіцкіх організацый, кірунак працы організацый уцекачоў зьмяніўся. Спробам нацыяналістых накіраваць масы ўцекачоў па шляху нацыяналістычнай барацьбы былі процістаўлены задачы ўцягваньня рабочых мас у барацьбу за саветы.

Першымі ўсталі на гэты шлях беларускія організацыі рабочых асяродкаў. У Петраградзе ўлетку 1917 году ўжо існавала бальшавіцкая беларуская організацыя, якая нарадзілася, як філія Беларускай Соцыялістычнай Грамады. Прадстаўнікі гэтай організацыі, як бальшавікі, былі на Ўсебеларускім Конгрэсе і ўпарта змагаліся супроць буржуазна-дэмократычных кіраўнікоў конгрэсу.

14-га лютага 1918 году ў Петраградзе быў організаваны пры ўрадзе РСФСР Беларускі Нацыянальны Камісарыят. На яго было ўскладзена абслугоўваньне эканомічных, культурных і палітычных патрэб беларускіх уцекачоў, а таксама дапамога ўмацаваньню саветаў на Беларусі ды падрыхтоўка да організацыі савецкай улады ў окупаванай краіне.

Беларускі Нацыянальны Камісарыят шырака разгарнуў сваю працу, маючы ва ўсіх мясцох зграмаджэньня ўцекачоў свае аддзелы і палітычна апрацоўваючы тыя масы ўцекачоў, якія зьвярталіся дамоў у окупаваную паласу.

**Рэволюцыйная праца ў окупацыі.**

Асабліва важнае значэньне ў гэты час мела праца бальшавікоў у паласе окупацыі.

Окупацыя Беларусі была сьмяртэльнай пагрозай для саветаў на Беларусі. Але разам яна мела і свае дадатныя вынікі: папершае, рабочыя і сялянскія масы занятых немцамі абшараў навочна яшчэ раз пераканаліся, што зварот улады буржуазіі зноў нясе

рабочым і сялянам уціск, эксплёатацыю, зьдзекі; падругое—перасуваньне немцаў на ўсход злучыла старую окупацыю, Вільню—Горадню—Беласток, з новай окупацыяй, адчыніла дзьверы для вольнага пашырэньня бальшавіцкіх ідэй на Захад і, патрэцяе, дапамагала зьбліжэньню нямецкіх салдат з рэволюцыйнымі рабочымі й сялянамі Беларусі, ад якіх немцы пераймалі новыя ідэі савецкай улады.

Паступова ў окупацыі былі адноўлены і організаваны бальшавіцкія ячэйкі як па гарадох ды мястэчках, тэтак і па вёсках. Асаблівую ўвагу бальшавікі зьвярнулі на тое, каб прыцягнуць на свой бок рабочых, сярод якіх яшчэ мелі сілу ўплывы Бунду, сыяністых ды інш. згоднікаў.

«Карыстаючыся падтрыманьнем Паўночна-Заходняга Краёвага Камітэту і знаходзячыся пад яго кіраўніцтвам», кажа тав. Кнорын у брошуры «Пяць год КП(б)Б»: «менская падпольная організацыя зрабіла тое, чаго да окупацыі не ўдалося зрабіць,—яна аўладала ўсёй рабочай масай гораду і раней за ўсё—профэсыянальнымі саюзамі. Яна ў значнай ступені пахіснула ўплыў Бунду і «Поалей-Цыон», сярод якіх якраз у гэтых умовах пачаўся развал».

Менская комуністычная організацыя зьвязваецца з павятовымі гарадамі і ўстанаўляе сваю гегемонію над окупаванай тэрыторыяй. Улетку 1918 году ў Смаленску была склікана краёвая конфэрэнцыя партыйных організацый Беларусі. На ёй абіраецца Краёвы Камітэт Беларусі, які працуе пад кіраўніцтвам Заходняга Краёвага Камітэту. Краёвы Камітэт Беларусі зьвязваецца з сялянствам, стварае шматтысячную паўстанцкую організацыю і падрыхтоўвае, такім чынам, моцную падмогу саветам у окупацыі.

Цікава адзначыць, што рабочыя асяродкі так званай старой окупацыі рана ўсталі на шлях стварэньня саветаў. Ужо ў сакавіку 1918 году ў Беластоку быў абраны савет.

Рэволюцыя ў Нямеччыне паскорыла расклад нямецкай арміі. У ёй былі абраны саветы. Праўда, «сольдатэнраты» знаходзіліся ў руках афіцэрства, але палітычная роля іх ад гэтага не зьмяншалася.

К гэтаму часу адносіцца праца «Рэволюцыйнага савету нямецкай арміі ўсходняга фронту». Гэты савет быў створаны Паўночна-Заходнім Краёвым Камітэтам нашай партыі з некалькіх перадавых нямецкіх ды аўстрыяцкіх рабочых-комуністых і адыграў вялікую ролю ў справе рэволюцыяваньня і распаду нямецкай арміі.

**Праца беларускіх нацыяналістых.**

У той час, як рабочыя і сяляне Беларусі пад кіраўніцтвам бальшавікоў арганізоўваліся для рашучай барацьбы за саветы, беларускія нацыяналістычныя арганізацыі вялі і далей сваю працу барацьбы супроць саветаў за стварэньне буржуазнай беларускай дзяржавы. Адыход савецкай улады з Менску дазволіў выйсьці з падпольля дзеячом Выканаўчага Камітэту Ўсебеларускага Конгрэсу. Яны пачалі хутчэй зьбіраць сілы, каб ударыць па адыходзіўшых бальшавіках, а таксама захапіць уладу ў свае рукі.

18-га лютага 1918 году Савет Народных Камісараў Заходняй Краіны эвакуаваўся ў Смаленск.

20-га лютага Выканаўчы Камітэт Конгрэсу выпусьціў першую ўстаўную грамату—аб стварэньні часовага сакратарыяту і аб захопе ўлады ў свае рукі. Аднак, гэта было больш падобна на комэдыю, а не на сур'ёзную працу. Выканаўчы Камітэт ня меў рэальнай сілы, каб ажыцьцяўляць свае пастановы. У Менск прышлі польскія легіёны Доўбар-Мусьніцкага, якія ўзялі фактычную ўладу ў свае рукі.

22-га лютага ў Менск увайшлі немцы, якія скончылі конкурэнцыю, падначаліўшы ўсю окупаваную паласу пад свой уплыў.

У дзейнасьці беларускіх нацыяналістых пачынаецца новы пэрыод: дзе толькі можна, яны хадайнічаюць перад нямецкім камандваньнем, каб тое дапамагло стварыць Беларускую рэспубліку. Яшчэ 18-га лютага Віленская Беларуская Рада ўхваліла пастанову аб разрыве паміж Беларусьсю і Расіяй.

25-га сакавіка Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Конгрэсу, заслухаўшы паведамленьне Віленскай Рады аб дасягненьнях беларускага нацыянальнага руху ў нямецкай окупацыі, пастанавіў зьвярнуцца да беларускага

народу з трэцяй устаўной граматай з абвяшчэньнем «Беларускай Народнай Рэспублікі».

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі паслала з гэтай прычыны тэлеграму да імпэратара Вільгельма II, у якой казала: «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі... зьвяртаецца да вашай імпэратарскай вялікасьці з словамі найглыбейшай удзячнасьці за вызваленьне Беларусі нямецкім войскам ад цяжкога ўціску, панаваньня зьдзекаў і анархіі. Рада БНР дэкляравала незалежнасьць цэльнай і непадзельнай Беларусі і просіць вашую імпэратарскую вялікасьць аб абароне ў яе імкненьнях да ўмацаваньня дзяржаўнай незалежнасьці і непадзельнасьці краю ў сувязі з Нямецкай імпэрыяй. Толькі пад абаронай Нямецкай імпэрыі бачыць край сваё шчасьце ў будучыне».

Комэнтарыі, здаецца, залішнія, дзеля таго што тэкст гэтай тэлеграмы кажа сам за сябе. Гэтага кроку Рады ня вытрымалі нават ўваходзіўшыя ў Раду бундаўцы і беларускія эсэры: ім стала млосна і яны вышлі з Рады. Ня гледзячы на падлашчваньні беларускіх нацыяналістых, нямецкае камандваньне адносілася да Рады вельмі холадна, тым больш, што з яго, з-за рэволюцыі ў Нямеччыне, хапала і сваіх клопатаў.

Але гэтыя падлашчваньні да нямецкага камандваньня адкрывалі ўсім, хто яшчэ памыляўся, сапраўдны твар Рады і яшчэ мацней гуртавалі рабочых ды сялян вакол саветаў.

Саветы к канцу нямецкай окупацыі былі організаваны па ўсёй окупаванай тэрыторыі. Адыход немцаў з Беларусі быў спатканы з вялізным энтузыязмам усімі працоўнымі, для якіх пачынаўся новы пэрыод барацьбы за саветы. 11-га сьнежня 1918 году ў Менску ўтварыўся Менскі Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт вызваленай Беларусі.

# Агалашэньне БССР

У сувязі з разгромам нямецкага імпэрыялізму рукі ў Антанты разьвязаліся, і ў канцы 1918 году ўвага дзяржаў-пераможніц у большай ступені, як да гэтага часу, пачала накіроўвацца на барацьбу супроць пролетарскай рэволюцыі.

Адзін з проектаў барацьбы супроць рэволюцыйнай Расіі замыкаўся ў тым, каб, скарыстаўшы лёзунг самавызначэньня народаў, раздробніць яе на шэраг фэдэрацыйных і незалежных дзяржаў, разьяднаць такім чынам сілы пролетарыяту й сялянства і гэтым палегчыць аднаўленьне буржуазнага «права й парадку». З гэтага відаць, што з боку савецкай улады патрабавалася найвялікшая ўвага да нацыянальнага пытаньня, каб ня даць буржуазіі магчымасьці скарыстаць нацыянальныя супярэчнасьці старой Расіі для барацьбы супроць саветаў. Гэтыя супярэчнасьці трэба было скарыстаць так, каб яшчэ больш зьяднаць працоўных вакол саветаў, каб барацьба за саветы мела разам характар барацьбы працоўных за сваё нацыянальнае вызваленьне.

Рэволюцыйныя організацыі Беларусі паставілі пытаньне аб абвяшчэньні Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, лічачы, што гэта яшчэ больш зьяднае рабочых і сялян Беларусі пад сьцягам комуністычнай партыі і вырве самы важны козыр з рук буржуазіі.

22—23 сьнежня 1918 году ў Маскве I Ўсерасійскі зьезд беларускіх сэкцый бальшавікоў ухваліў пастанову аб патрэбе абвяшчэньня Беларускай Рэспублікі.

У гэты-ж самы час вельмі актыўна стаўлялася пытаньне аб палітычнай патрэбе абвяшчэньня Беларускай

Савецкай Рэспублікі старшынёю Менскага Рэўкому—тав. *Рэйнгольдам.*

30-та сьнежня 1918 году VI краёвая конфэрэнцыя комуністычнай партыі Заходняй Комуны ўхваліла пастанову аб стварэньні Савецкай Беларусі, абвясьціўшы сябе I зьездам комуністычнай партыі Беларусі.

Падаем рэзолюцыю VI конфэрэнцыі (I зьезду) цалком:

> «Атмосфэра, якая ўсё больш і больш згушчаецца на горызонце сусьветнага імпэрыялізму, пагражае зьністожыць пераможны рух III Інтэрнацыяналу, паўстаўшага міжнароднага пролетарыяту і прыгнечаных нацый, якія ўстаюць на шлях адзіна вызваленчай для іх комуністычнай рэволюцыі. Супроць ваяўніча-шовіністычнага імпэрыялізму хутка зьбіраюцца сілы Савецкай Расіі, каб адбараніць свабоду працоўных мас паўстаўшых народаў. Каб вытрымаць націск цесным колам абкружыўшых нас нанятых банд і цёмных сіл імпэрыялізму, каб яшчэ болей замацаваць заваёвы расійскага пролетарыяту і памагчы яму адбіць наступ злоснага ворага, які наважыў зьністожыць заваёвы пролетарыяту і правы вольных народаў, з мэтай наладжваньня фактычна-буржуазнага самавызначэньня народаў і тым самым нясусьветнага разгулу капіталу—VI краёвая конфэрэнцыя бальшавікоў лічыць патрэбным абвясьціць самастойную Социялістычную Рэспубліку Беларусі з тэрыторый Менскай, Гарадзенскай, Магілеўскай, Віцебскай і Смаленскай губэрняў».

1-га студзеня 1919 году быў абнародаваны маніфэст часовага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі, які агалашаў утварэньне Беларускай Социялістычнай Савецкай Рэспублікі.

Часовы ўрад Беларусі склаўся з працаўнікоў Заходняй краіны і Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту, пад старшынствам беларускага пісьменьніка з рабочых З. Жылуновіча (Цішкі Гартнага), чым рабіўся буйны крок наперад па ўцягваньні ў кіраўнічую рэволюцыйную барацьбу працаўнікоў, беспасрэдна зьвязаных з шырокімі масамі рабочых і сялян Беларусі.

На I Усебеларускім зьезьдзе саветаў у лютым 1919 г. была прынята Констытуцыя Беларускай Рэспублікі, якая спэцыяльным актам была прызнана ЦВК РСФСР.

К гэтаму часу Літва таксама была абвешчана савецкай рэспублікай, і літоўскі савецкі ўрад вёў барацьбу супроць літоўскай Тарыбы ды польскіх легіёнаў.

Перад Савецкай Беларусьсю і Савецкай Літвой быў адзін вораг, стаялі агульныя задачы рэволюцыйнай барацьбы. Дзеля гэтага амаль аднача́сна на зьездах саветаў Беларусі і Літвы было ўхвалена аб'яднаць Беларусь і Літву ў адну Літоўска-Беларускую Савецкую Рэспубліку. 7—8-га сакавіка 1919 году ў Вільні адбылася аб'яднаўчая сэсія Цэнтральных Выканаўчых Камітэтаў Літвы і Беларусі, якая аформіла пастановы сваіх зьездаў аб зьліцьці.

Організуючы сілы для барацьбы супроць ворагаў і вядучы гэтую барацьбу, маладая Літоўска-Беларуская дзяржава разгарнула ў той-жа самы час шырокую працу соцыялістычнага будаўніцтва. З найважнейшых мерапрыемстваў таго часу трэба адзначыць наступныя: каб уцягнуць масы ў будаўніцтва, усюды былі праведзены выбары ў саветы; было пастаўлена пытаньне аб зямлі, прычым мелася на ўвазе шматлікія маёнткі Літвы і Беларусі, абапіраючыся на значны сельска-гаспадарчы пролетарыят, абярнуць на фабрыкі збожжа; былі ўжыты спосабы да абслугоўваньня нацыянальна-культурных патрэб мясцовага насельніцтва, прычым мясцовыя мовы насельніцтва былі прызнаны роўнапраўнымі.

Што-ж у гэты час рабіла беларуская Рада?

Маніфэст часовага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі абвясьціў Раду па-за законам. Савецкі ўрад Беларусі павёў упартую барацьбу супроць Рады і яе «народных міністраў» тым больш, што контр-рэволюцыйная сутнасьць Рады выявілася з поўнай відавочнасьцю.

Баючыся народнага гневу, беларуская Рада кінула Менск і асталявалася ў канцы 1918 году ў Коўне, дзе паміж літоўскай Тарыбай і беларускаю Радай была падпісана ўмова аб узаемнай дапамозе.

Чыннасьць Рады і «ўраду БНР» у гэты час была накіравана на тое, каб знайсьці дапамогу для барацьбы

супроць Савецкай Беларусі. Паводле слоў аднаго з «дыплёматычных» прадстаўнікоў Рады К. Езавітава, прадстаўнікі Рады вялі перамаўленьні з гр. Ліанозавым, з урадамі Колчака, Юдэніча, Дзянікіна, азначаючы свае адносіны да іх у залежнасьці ад прызнаньня іх новымі дзяржавамі. Усюды, дзе ўтвараліся контр-рэволюцыйныя цэнтры, былі прадстаўнікі Рады.

Збліжэньне «ўраду БНР» з літоўскай Тарыбай рабілася ўсё больш цесным. Пры літоўскім урадзе было створана міністэрства па беларускіх справах, міністар якога Я. Варонка распачаў кампанію па вярбоўцы беларусаў у літоўскую армію. Яшчэ раней прадстаўніком Рады ўдалося сабраць зьезд сялян Горадзеншчыны, на якім была ўхвалена пастанова аб далучэньні Горадзеншчыны да Літвы супроць Польшчы.

Аднак, толькі падманам удаваліся Радзе такія пастановы. Калі ў Горадні быў створаны савет, то на першае-ж пасяджэньне савету—27-га студзеня—зьявіліся прадстаўнікі сялянскай сэкцыі беларускай Рады, якія заявілі аб сваім адзінстве з саветамі рабочых дэпутатаў.

«Урад БНР» зрабіўся групай эмігрантаў, якія спэкулявалі на нацыянальным пытаньні, пры поўным збанкрутаваньні ўсіх спроб пацягнуць за сабой масы.

Ад «радаўскай» орыентацыі пачалі паступова адыходзіць лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, якая ўставала на шлях сумеснай працы з саветамі.

25-га студзеня зрабілася вядомым, што міжнародны капітал парашыў перайсьці ў наступ супроць саветаў: маршал Фош запатрабаваў ад галоўнага нямецкага камандваньня вольнага пропуску польскіх легіянэраў праз Горадзеншчыну супроць бальшавікоў.

Барацьба за саветы ўваходзіла ў новую стадыю беспасрэднага нападу на саветы армій капіталу.

На Беларусь насунулася новая пагроза: польская армія, па загаду з Францыі, выконваючы ролю авангарду сусьветнай буржуазіі, пачала наступ. Па загаду Антанты немцы перадаюць легіянэрам Беласток. Польская армія захапляе Ваўкавыск, Слонім, 28-га красавіка займае Горадню.

У канцы красавіка пераапранутыя польскія легіянэры ўваходзяць у Вільню і займаюць яе. Язэп Піл-

судзкі выпушчае адозву, у якой заяўляе, што польская армія ідзе, каб вызваліць «забыты богам і людзьмі край»—Беларусь, што яго армія нясе вольнасьць і роўнасьць беларускаму народу. Захоп беларускіх тэрыторый польскімі легіёнамі пазначыўся цэлай паласой экзэкуцый над сялянамі, з якімі паны разьлічваліся за панскую зямлю, лес і інш. Ня гледзячы на супрацiўленьне рабочых і сялян Беларусі, дужэйшыя сілы Польшчы ішлі ўсё ўперад. 8-га жніўня палякамі быў захоплены Менск; польска-савецкі фронт стварыўся на рубяжох Полацак—Барысаў—Бабруйск.

Літоўска-беларускі савецкі ўрад, які выехаў раней у Бабруйск, эвакуаваўся потым у Смаленск, дзе ўсе сілы і сродкі былі перададзены Чырвонай арміі на барацьбу супроць палякаў.

Пачаўся самы цяжкі для Беларусі пэрыод—пэрыод польскай окупацыі.

---

## Польская окупацыя

Напад польскай арміі на Савецкую Беларусь і Украіну быў зроблены ў мэтах барацьбы супроць саветаў па загаду і пры падтрыманьні краін Антанты, у першую чаргу—Францыі. Але гэты напад польскай арміі быў у той-жа самы час спробай польскай буржуазіі захапіць усе тэрыторыі, якія ўваходзілі ў склад гістарычнай Польшчы да яе падзелу ў 1772 годзе.

Польская окупацыя аднавіла для Беларусі самыя горшыя часы прыгону: расправа з сялянамі за захопленыя імі зямлю, лясы, за прагнаных паноў, пакараньне розгамі за самую малую віну, абкладаньне контрыбуцыямі і ўсякімі павіннасьцямі,—вось агульная неперабольшаная ацэнка становішча сялянства таго часу.

«Становішча насельніцтва зрабілася зусім нязносным. Цяжкое ярмо польскай окупацыі прыціснула ўсіх жыхароў. Амаль усе, апрача невялікай кучкі спэкулянтаў, напалову галадавалі. Польскія банды тэрорызавалі ўсё насельніцтва, лавілі на работу, рэзалі бароды і, як маглі, зьдзекваліся над беднымі безабароннымі яўрэямі»,—так апісвае становішча ўцякач з окупацыі, дадаючы: «Няма нічога дзіўнага, што ўсё насельніцтва, як міласьці з неба, чакала вызваленьня з-пад гэтага нязноснага ярма».

Значыцца, калі барацьба на польска-савецкім фронце абазначала для рабочых і сялян усіх савецкіх рэспублік барацьбу супроць сусьветнай буржуазіі, дык для беларускіх рабочых і сялян гэтая барацьба, апрача таго, была яшчэ і барацьбой супроць свайго адвечнага гвалтаўніка—польскага пана.

У окупацыі рабоча-сялянскія масы ўсталі на шлях актыўнай барацьбы супроць окупантаў. Польская оку-

нацыя пазначылася шырокім паўстанцкім рухам рабочых і сялян Беларусі. Комуністычныя ячэйкі зрабіліся кіруючымі штабамі партызанскага руху. Тыя, хто ня меў сувязі з комуністычнымі ячэйкамі, стваралі свае організацыі. Цікава адзначыць, што беларуская сельская інтэлігенцыя, пераканаўшыся на практыцы, *што* для Беларусі дасьць зварот «дэмократычных» парадкаў, галасна дэкляраваных Пілсудзкім, таксама ўстала на шлях барацьбы супроць окупантаў і пачала ствараць беларускую комуністычную організацыю напоўмарксыцкага, напоўнародніцкага характару, якая паступова наладзіла контакт з компартыяй.

ЦК комуністычнай партыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі, знаходзячыся ў Смаленску, кіраваў усёй гэтай барацьбой, накіроўваючы яе ў організаванае рэчышча, даючы лёзунгі, пасылаючы кіраўнікоў-організатараў, задаваляючы літаратурай, рэгулюючы моманты выступленьняў.

Знайшліся, аднак, у окупацыі групы беларускіх шовіністычных дзеячоў, сярод якіх, у сувязі з адозвай Пілсудзкага, аджылі старыя надзеі на тое, што толькі адна Польшча здолее памагчы Беларусі зрабіцца «вольнай і роўнай» з іншымі народамі.

У кастрычніку 1919 году з дазволу польскай улады ў Менску была склікана сэсія Рады «Беларускай Народнай Рэспублікі» з прадстаўнікамі беларускіх організацый. Даючы дазвол на скліканьне Рады, польскі ўрад загадзя быў запэўнены некаторымі «раднымі», што Рада ўхваліць пастанову аб фэдэраваньні Беларусі з Польшчай. Аднак, панаваньне польскіх окупантаў у Беларусі пачало адкрываць вочы тым, хто да гэтага яшчэ памыляўся і романтычна верыў у «прыраджоны польскі дэмократызм». Дэлегаты Рады з месцаў сталі ў опозыцыю полёнафільскай частцы радаўскай галоўкі. Рада абрала новы ўрад «незалежніцкі» з У. Ластоўскім на чале. Тады правая частка Рады абвясьціла гэты ўрад незаконным і, сабраўшыся асобна, абрала так званую «Найвышэйшую Раду», з надзеяй пры дапамозе Пілсудзкага «вызваліць беларускі народ і стварыць аўтономную Беларусь у межах Польшчы 1772 году».

«Найвышэйшая Рада» стварыла беларускую вайсковую камісію, якая павінна была вербаваць ахвотнікаў-беларусаў у польскую армію супроць Чырвонай арміі. Але ўсё гэта было ня больш, як бутафорыяй.

Увесну 1920 году, калі былі скончаны асноўныя ваенныя опэрацыі Чырвонай арміі на іншых фронтах, заключаны мір з Эстоніяй, Літвой, пачаліся перамаўленьні з Латвіяй,—камандваньнем Заходняга фронту пачалася падрыхтоўка да рашучых боек з польскай арміяй, тым больш, што, ня гледзячы на настойлівыя прапановы савецкай улады з абяцаньнем Польшчы вялікіх тэрыторыяльных уступак, Польшча адмаўлялася заключыць мір.

Чуючы бяду, польскае камандваньне загадзя рыхтавалася да адыходу, вывозячы ўсё найбольш каштоўнае ў Польшчу. Усё, чаго не магла захапіць польская армія, нішчылася. Беларусь была абхоплена пажарамі: гарэлі падпаленыя палякамі лясы, гарады і інш. Окупанты паказалі свой сапраўдны твар: «8-га траўня а трэцяй гадзіне раніцы ворат стралянінай з гармат пачаў руйнаваць горад Барысаў. А дзевятай гадзіне раніцы палякі пачалі па Барысаву ўраганавы артылерыйскі агонь, страляючы хэмічнымі і падпальнымі снарадамі». Барысаў быў не адзінай афяраю: гарэў і руйнаваўся Менск, па загаду генэрала Шэптыцкага быў падпалены Слуцак, каб зрабіць віднай дарогу адыходзіўшым абозам.

Магутным націскам Чырвонай арміі, якая пад ураганавым агнём ворага перайшла праз Бярэзіну, пры дапамозе беларускіх партызан, ударыўшых у тыл польскай арміі, 10-га ліпня польскі фронт быў разарваны, і пачаўся нястрымны адыход польскай арміі. Не памаглі гістэрычныя крыкі беларускай Рады аб тым, што кожны беларус павінен устаць на абарону супроць «маскоўскіх гвалтаўнікоў» за культурную Польшчу. Рада змушана была ўцякаць разам з окупантамі.

10-га ліпня быў адабраны Барысаў, 11-га ліпня—вызвалены Менск. За кароткі час уся Беларусь была вызвалена ад окупацыі. Чырвоная армія перайшла на тэрыторыю карэннай Польшчы. Рабочыя і сяляне вызва-

леных тэрыторый спатыкалі Чырвоную армію з хлебам і сольлю.

11-га ліпня ў Менску ўтварыўся Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт у складзе т.т. Чарвякова, Кнорына і Адамовіча.

Менск зрабіўся савецкім.

Перамога 1920 году над польскай арміяй абазначала перамогу саветаў над капіталістычным сьветам.

Перамогай 1920 г. рабочыя і сяляне Беларусі замацавалі Кастрычнікавую рэволюцыю, скончылі доўгую барацьбу за саветы, якая пачалася ў 1917 годзе. 1-га жніўня 1920 году рэволюцыйныя організацыі Беларусі ўрачыста дэкляравалі аднаўленьне Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі, вылучыўшы Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт Беларусі ў складзе т.т. Чарвякова (старшыня), Кнорына, Адамовіча, Ігнатоўскага і Вайнштэйна.

З 1920 году Савецкая Беларусь вядзе свой каляндар мірнага социялістычнага будаўніцтва.

# Соцыялістычнае будаўніцтва Савецкай Беларусі

Тэрыторыя і лік насельніцтва.

Пасьля сканчэньня Савецка-Польскай вайны, Савецкая Беларусь пачала мірную працу ў складзе 6-ці паветаў былшай Менскай губэрні, на тэрыторыі звыш 52.000 кв. клм. з насельніцтвам звыш 1.500.000 чалавек. Гэты склад Савецкай Беларусі далёка не ахапляў усяе тэрыторыі Беларусі. Аднак, да 1924 году Савецкая Беларусь, ня гледзячы на прапановы з боку Ураду РСФСР, не магла ўключыць у свой склад суседнія беларускія раёны, бо трэ' было раней хаця крыху стаць на ногі пасьля вайны. У красавіку 1924 году па згодзе ўрадаў РСФСР і БССР да Савецкай Беларусі быў далучаны шэраг беларускіх паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губэрань. Дзякуючы гэтаму, БССР заняла абшару 109.764 кв. клм. з насельніцтвам 4.200.000 чалавек. Разам з гэтым далучэньнем да Беларусі беларускіх тэрыторый, урады БССР і РСФСР, выходзячы з патрэбы стварыць найбольш спрыяючыя ўмовы для свайго далейшага плянавага соцыялістычнага будаўніцтва—гаспадарчага і культурнага,—пачалі больш падрабязнае выўчэньне ўсіх суседніх тэрыторый, каб на падставе гэтага зрабіць канчатковае раёнаваньне, выдзеліўшы ў склад Беларусі ўсе аднастайныя з боку гаспадарчага, этнографічнага і культурнага тэрыторыі. У выніку гэтай працы 6-га сьнежня 1926 году Прэзыдыум ЦВК РСФСР пастанавіў перадаць Савецкай Беларусі Гомельскі і Рэчыцкі паветы б. Гомельскай губ. Гэта пастанова далучыла да БССР яшчэ 15.752 кв. клм. тэрыторыі і 649.000 чалавек насельніцтва.

Так паступова, пры дапамозе сваёй старэйшай сястры РСФСР, БССР канчаткова афармілася, як дзяржаўная адзінка з насельніцтвам у 5.000.000 чалавек. Частка задачы па аб'яднаньні беларускіх тэрыторый у складзе БССР такім чынам ужо выканана. Гэта дае ўпэўненасьць, што будзе выканана і далейшае аб'яднаньне ў складзе БССР тых тэрыторый, што часова, з прычыны няспрыяльных палітычных умоў, дагэтуль падпарадкаваны суседнім дзяржавам.

Адрыў ад Беларусі часткі заходніх тэрыторый моцна адбіваецца на будаўніцтве Беларусі, бо Беларусь падзелена, як гаспадарчая адзінка, што не дае магчымасьці дасканала распрацаваць пляны будаўніцтва і выкарыстаць усе тыя сілы і сродкі, якія мае Беларусь.

**Скасаваньне царскіх даўгоў і падаткаў.**

Але і цяпер ужо Савецкая Беларусь мае магчымасьць будаваць сваю гаспадарку, культуру і ўзмацняць сваю палітычную моц.

Кастрычнікавая рэволюцыя разарвала путы, якімі царскі ўрад апутаў працоўных. Такімі путамі былі даўгі, што нарабіў царскі ўрад заграніцай, а таксама вялізарныя падаткі, якія падалі, галоўным чынам, на сялянства.

Паводле падлічэньня амэрыканскіх вучоных, усяго даўгоў у царскага ўраду было 13.823.000.000 (трынаццаць мільярдаў восемсот дваццаць тры мільёны руб.). Процантаў за гэты доўг трэба плаціць 640.000.000 руб. (шэсьцьсот сорак мільёнаў руб.). На Беларусь прыпадзе з гэтага ліку ўсяго доўгу 552 мільёны рублёў, або на кожную душу звыш 130 рублёў, а на кожны год процантаў усяго 25.600 тысяч рублёў, або 6 руб. на 1 душу. Што гэта значыць—тлумачыць ня трэба.

Падаткі ды іншыя выплаты сялянства Савецкага Саюзу ў 1924-25 годзе былі меншыя, чым да вайны, на 2 мільярды рублёў.

Дзякуючы таму, што Кастрычнік усё гэта зьнішчыў, адраджэньне і разьвіцьцё народнай гаспадаркі Савецкай Беларусі ідзе больш шпарка, яна дужэе і расьце, а разам з гэтым матар'яльны стан рабочых і сялян паступова паляпшаецца.

**Надзел сялян зямлёй.**

Да рэволюцыі ў сярэднім на 1 сялянскі двор прыпадала 8 дзесяцін усяе зямлі, бо ў сялянскім уладаньні амаль ня было зямлі ня сельска-гаспадарчага карыстаньня. На 1 душу вясковага насельніцтва прыпадала 1,25 дзесяціны. Гэтыя лічбы зьяўляюцца яскравым прыкладам недахвату зямлі ў сялянства. Стан пагаршаўся яшчэ і тым, што шмат зямлі на Беларусі забалочана, і што, у залежнасьці ад гэтага, выходзіла на 1 гаспадарку ня 8, але 5-6 дзесяцін ужытковае зямлі. Наогул, Беларусь зьяўлялася краінай з найбольш шчыльным насельніцтвам, бо на 100 дзесяцін ужытковае зямлі прыпадала:

| | | |
|---|---|---|
| На Беларусі | 69,6 | чалавек |
| У Паўночна-Ўсходняй Расіі | 64,5 | „ |
| „ Паўночна-Заходняй „ | 45,3 | „ |
| „ Украіне | 65,2 | „ |

Зямля была разьмеркавана сярод сялянства вельмі няроўна. Калі, з аднаго боку, было шмат малых карлікавых гаспадарак, у якіх далёка ня старчыла зямлі да сярэдняй нормы, дык, з другога боку, было досыць і такіх, якія па колькасьці зямлі перавышалі значна тэту норму.

У залежнасьці ад зазначаных дзьвюх асаблівасьцяй— агульнага недахвату зямлі і няроўнага яе разьмеркаваньня сярод сялянства—перад Савецкай уладай стаялі задачы: 1) зьнішчыць малазямельле наогул, 2) так перабудаваць сялянскія гаспадаркі, каб кожная сялянская гаспадарка ня толькі задавальняла спажывецкія патрэбы самой гаспадаркі, але мела магчымасьць па сваім разьмеры разьвіцца і пашырацца, 3) гэтыя дзьве задачы, у сваю чаргу, павінны былі вырашацца так, каб забясьпечваць магчымасьць найбольш шпаркага коопэраваньня сялянскіх гаспадарак і праз коопэраваньне замацоўваць пераход сельскае гаспадаркі на соцыялістычны шлях разьвіцьця.

*Кастрычнікавая рэволюцыя перадала сялянству Беларусі каля* 1.300.000 дзесяцін зямлі, павялічыўшы, такім чынам, сялянскае землякарыстаньне на 32,3 проц.

Толькі 209.115 дзесяцін або 3,7 проц. ужыткоўнае зямлі пакінута ў якасьці дзяржаўнае маемасьці, а рэшта падзелена між сялянамі.

У 1907 годзе, купляючы зямлю праз так званы «Крестьянский банк», плацілі звычайна за 1 дзесяціну ў сярэднім 127 р. Калі мы падлічым па гэтай цане кошт перададзенай сялянам зямлі, дык убачым, што гэта складае вялізарную суму: 127×1.300.000=165.100.000 рублёў.

Кастрычнікавая рэволюцыя перадала сялянству абшарніцкае зямлі на суму звыш 165 мільёнаў рублёў.

У 1925 г. налічвалася звыш 100.000 новых сельскіх гаспадарак, якія пабудаваліся за часы рэволюцыі.

Рэволюцыйны падзел абшарніцкае зямлі часткова палепшыў стан сялянства, зьменшыўшы малазямельле.

На падставе экономічных падрахункаў выходзіць, што ў Беларусі мінімальная норма зямлі на адну гаспадарку павінна быць 4,6 або 6,8 дзесяціны ўжыткаў.

Сельская гаспадарка, маючая зямлі менш, існаваць ня можа.

Максымальная норма зямлі на 1 гаспадарку вызначаецца ў 9,2 або 13,7 дзесяціны.

Гаспадарка, маючая звыш гэтае нормы, ужо патрабуе наёмнай працы і траціць свой чыста працоўны склад. Маючы на ўвазе паказаныя нормы, вызначаныя для сярэдняе сялянскае гаспадаркі ў 4 душы, было падлічана ў 1925 годзе, што звыш 258.000 сялянскіх гаспадарак мела зямлі менш нормы і каля 30.000 гаспадарак—звыш нормы. Такім чынам, 38 проц. гаспадарак патрабуюць далейшае прырэзкі зямлі.

Недахват зямлі, які вызначыўся, патрабаваў ад улады далейшага вышукваньня зямельных фондаў, каб задаволіць зямельны голад.

Пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту дадатковыя зямельныя фонды былі створаны:

а) шляхам пераводу часткі зямлі з-пад лесу . . 368.000 дзес.

б) з дзяржаўнай зямлі . . . . . . . . . . . 100.000 „

в) „ акінутай зямлі . . . . . . . . . . . 50.000 „

г) „ абрэзкаў ад напоўпрацоўных гаспадарак . 170.000 „

д) апрача гэтага ёсьць на мэце дадаць 800—900 тысяч дзесяцін зямлі пасьля мэліорацыі.

Такім чынам, пытаньне задаваленьня зямельнага голаду ў асноўным вырашаецца. Гэта пытаньне дадаткова вырашаецца таксама шляхам пераезду беларускага

сялянства ў Сібір, на Волгу, на Каўказ, у Крым, дзе для Беларусі адводзяцца значныя абшары вольнай зямлі. Справа перасяленьня ідзе тым больш добра, што беларускія пасяленцы з давён-даўна знаёмы з Сібірай. Паводле матар'ялаў Галоўнага Перасяленцкага Камітэту, з 1896 па 1910 год перасялілася з Беларусі ў Сібір каля 500.000 чал. І цяпер гэта справа наладжваецца так, што кожны год выпраўляецца з Беларусі на новую зямлю ня менш як 10.000 чал., хаця жадаючых, трэба сказаць, ёсьць значна больш.

**Зямляўпарадкаваньне.** Зьмяншэньне цераспалосіцы, зьнішчэньне вузкапалосіцы і дальнязямельля дый наогул прыбліжэньне зямлі да земляроба зьяўляецца канечнай патрэбай у пабудове новае сялянскае гаспадаркі.

Арганізаванае і сыстэматычнае ажыцьцяўленьне гэтай рэформы ў зямлякарыстаньні выконваецца зямляўпарадчымі органамі ў парадку ўнутрыпасельнага зямлябудаўніцтва. Пры гэтым ва ўмовах БССР такое ўнутрыпасельнае зямлябудаўніцтва зьвязана з поўным гаспадарчым абсталяваньнем зямляўпарадкаваных сялян, з разьбіўкай зямлі на палі, а палёў на палосы, прызначаныя кожнай вызначанай гаспадарцы, і нават з пераводам зямляўпарадкаваных на шматпольле.

Ажыцьцяўленьне ўнутрыпасельнага зямляўпарадкаваньня палягчае ўвядзеньне больш інтэнсыўных спосабаў гаспадараньня і ў той-жа час спрыяе ўцягваньню ў асноўны гаспадарчы зварот тых больш дальніх ды нявыгадных па месцы свайго знаходжаньня зямельных вучасткаў, што, з прычыны гэтага палажэньня, пакідаліся сялянствам або выкарыстоўваліся вельмі экстэнсыўна. У такім стане знаходзіцца, паводле падліку Народнага Камісарыяту Земляробства, да 15 проц. усяе зямлі прапоўнага карыстаньня.

Што да формы зямлякарыстаньня, дык урад БССР пераважна спыняецца на такой форме яе, пры якой у найбольшай меры забясьпечваецца магчымасьць палепшаньня сельска-гаспадарчага будаўніцтва на падставе коопэраваньня і колектывізацыі серадняцкіх ды бядняцкіх гаспадарак.

Такой формай ва ўмовах БССР зьяўляецца высялковая, якую ўрад БССР, не адбіраючы ад насельніцтва свабоды выбару, імкнецца пераважна праводзіць мерамі ўгавору ды экономічнымі. Але-ж зьяўляецца патрэбным дапусьціць у паасобных выпадках правядзеньне хутарской і часткай адрубной формы там, дзе такая форма больш прыдатная па топографічных ды іншых мясцовых умовах і дзе насельніцтва не знаходзіць магчымым адмовіцца ад яе.

Згодна практыкі, высялковае зямлябудаўніцтва займае 78 проц., а хутарское і адрубное 22 проц. усіх гаспадарак.

Попыт на зямлябудаўніцтва вялізны, але яго задаволіць цалкам нельга з-за браку тэхнічных сіл.

Агульны падлік зямляўпарадчых работ такі:

| | |
|---|---|
| Усяго трэба зямляўпарадкаваць . . . . . . . . . . | 5.432.321 дз. |
| Было зямляўпарадкавана да рэволюцыі . . . . . . | 784.529 „ |
| Зямляўпарадкавана ў часе рэволюцыі да 1925 году . . | 1.045.315 „ |
| Зямляўпарадкавана за 1925 г. . . . . . . . . . . . | 182.186 „ |
| Засталося, такім чынам, зямляўпарадкаваць . . . . . | 3.430.301 „ |

Усю працу па зямляўпарадкаваньні маецца на мэце скончыць праз 10 год.

**Агрономічныя мерапрыемствы.**

Праца па зямляўпарадкаваньні ідзе побач з шырокімі агрономічнымі мерапрыемствамі. Каморніку, кажа наша вёска, няма чаго рабіць у вёсцы без агронома—і наадварот.

У 1-ым паўгодзьдзі 1925-26 году шматпольле праводзілася на 2.124 пунктах, захапіўшы 11.329 гаспадарак. Патрэба на агронома расьце. Разам з гэтым расьце патрэба на насеньне, на машыны.

Селянін заводзіць шматпалёўку, разводзіць скаціну, наогул імкнецца зрабіць сваю гаспадарку больш зыскоўнай. Калі раней галоўную ўвагу селянін зварачаў на тое, каб больш пасеяць жыта, дык цяпер селянін імкнецца жыта сеяць ня больш, але лепш, каб атрымаць большы ўраджай. Ён імкнецца замяніць жыта больш выгоднымі культурамі, як лён, бульба, ды інш. Прадаўшы іх на рынку, селянін купляе сабе хлеб, бо гэта выгадней. Увоз

і вываз збожжа за апошнія гады зьмяніўся (у тысячах пудоў) так [1]):

| Гады | Увоз | Вываз | Сальдо |
|---|---|---|---|
| 1923-24 . . | 1.675 | 738 | + 937 |
| 1924-25 . . | 1.723 | 2.610 | — 887 |
| 1925-26 . . | 6.716 | — | +6.716 |
| 1926-27 . . | 9.185 | 439 | +8.746 |

Значыць, яшчэ ў 1924-25 годзе вывезьлі з Беларусі збожжа на 887 тыс. пудоў больш, чым увезьлі. Але далей, разам са зьменай у характары сельскай гаспадаркі, ідзе вельмі значнае павялічэньне ўвозу.

**Засеўная плошча.** Засеўная плошча ў 1924-25 годзе перавысіла даваенную на 13 проц., дайшоўшы да 2.493 тысяч дзесяцін. За апошнія гады ідзе далейшы паступовы рост засеўнай плошчы.

**Ураджай збожжа.** Расьце ўраджай збожжа, ён перавысіў сярэднюю даваенную норму. Так, збор з дзесяціны ў пудох быў:

| | Сярэдн 1905—13 | 1923—24г. | 1924—25г. |
|---|---|---|---|
| Жыта-азіміна . . | 42,4 | 41 | 48,1 |
| Ячмень . . . | 47,1 | 45 | 51,2 |
| Авёс . . . . | 48,3 | 51 | 55,7 |
| Льняное семя . . | 22,2 | 22,4 | 26,4 |
| Бульба . . . . | 432,2 | 432,2 | 548,2 |

*Агульны* збор жыта з году ў год павялічваецца: сабрана было збажыны ў 1923 годзе—84.735,7 тыс. пудоў, у 1924—92.703,2 тыс. пудоў, у 1925 г.—100.982 тыс. пудоў.

[1]) Усе лічбы ўзяты з кніжкі „Контрольные цифры нар. хоз. БССР на 1926-27 г.“, выданьне Дзяржпляну БССР, 1926 г,

**Тэхнічныя культуры.** Тэхнічныя культуры і засеўныя травы займаюць усё большае месца, што відаць з наступнай таблiцы (у проц.):

| КУЛЬТУРЫ | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| Зернавыя . . . . . . . . . | 82,7 | 82,1 | 79,1 | 77,3 |
| Бульба . . . . . . . . . . | 11,4 | 10,3 | 11,3 | 11,7 |
| Тэхнічныя . . . . . . . . . | 3,1 | 3,4 | 4,6 | 4,6 |
| Пасевы траў . . . . . . . . | 2,8 | 4,1 | 5,0 | 5,4 |

**Гадоўля жывёлы.** Гадоўля жывёлы хутка аднаўляецца, даўшы за мінулыя гады значны рост. У процантах мы маем наступны малюнак параўнаньня з мінулым годам:

| | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| Коні . . . . | 100 | 102,7 | 112,9 | 102,8 |
| Быдла . . . | 100 | 106,0 | 118,2 | 100,6 |
| Авечкі . . . | 100 | 102,0 | 121,1 | 95,8 |
| Сьвіньні . . . | 100 | 116,9 | 129,3 | 106,3 |

Такім чынам, мы бачым, што сельская гаспадарка Беларусі ўжо паднялася да ўзроўню даваеннага часу, а ў некаторых выпадках нават яго перавышае. Разам з агульны ростам народнай гаспадаркі будзе ісьці ў далейшым разьвіцьцё і сельскай гаспадаркі.

**Далейшыя задачы.** У сучасны момант Урад БССР злажыў пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі, у якім у стасунку да сельскай гаспадаркі прадбачыцца наступны шлях разьвіцьця:

1. Далейшае пашырэньне засеўнае плошчы і зьмяншэньне няўжыткаў. Вялікае значэньне пры гэтым набывае праца па мэліорацыі і земляўпарадкаваньні.

2. Не зьмяншаць, але павялічваць агульны лік збору зярна, і ў той-жа час зьвярнуць асаблівую ўвагу на павялічэньне тэхнічных культур, як найбольш зыскоўных.

3. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі, дзякуючы чаму будзе расьці таварнасьць сельскай гаспадаркі і будзе магчымасьць пашыраць прамысловасьць па пераапрацоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны (бульбы, маслабойнай, ільнянай, гарбарнай).

**Сельска-гаспадарчая коопэрацыя.**

Аднаўленьне і разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ідзе пры дапамозе Савецкай улады, якая ўкладае ў гэту справу вялікія сродкі як шляхам бюджэтных асыгнаваньняў, так і праз сельска-гаспадарчы крэдыт ды сельска-гаспадарчую коопэрацыю.

Асаблівая ўвага ўвесь час зварачаецца на пашырэньне коопэрацыі.

На 1-ае кастрычніка 1925 году сельска-гаспадарчая коопэрацыя лічыла 122.000 сяброў.

На 1-ае красавіка 1926 году ўжо было 168.000 сяброў, што дае павялічэньне на 37,4 проц. На 1-ае кастрычніка было коопэравана 17,5 проц. усіх сялянскіх гаспадарак, а на 1-ае красавіка—22,5 проц.

Цэнтральнымі Савецкімі ўстановамі Беларусі выдана летам 1926 году 270.000 руб. доўгатэрміновай пазыкі. Апрача тэтага, выдана яшчэ з фонду гаспадарчага аднаўленьня 265.000 рублёў.

Вельмі важна адзначыць, што ідзе значнае пашырэньне і ўмацаваньне розных відаў коопэраваньня ў сельскай гаспадарцы. Колгасы, арцелі, таварыствы машынныя, па жывёлагадоўлі, малочныя і т. далей.

**Сельска-гасападарчы крэдыт.**

Сельска-гаспадарчы крэдыт, арганізаваны ўладай, галоўным чынам, за кошт дзяржаўных сродкаў, служыць для грашовай дапамогі сельскай гаспадарцы.

IX Зьезд Компартыі (бальшавікоў) Беларусі кажа пра гэта так: «Усе мерапрыемствы па разьвіцьці сельскай гаспадаркі і гаспадарчая праца (чыннасьць) самога сялянства ўпіраюцца ў недахват капіталу ў сельскай гаспадарцы. Бяз шырокага дзяржаўнага сельска-гаспадарчага

